● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 2000 рублёў

3 студзеня 1998 г. субота, № 3 (23354)

# ЗВЯЗДА



## ПАСТАНОВА САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 1752

### АБ УДАСКАНАЛЕННІ МЕХАНІЗМА АПЛАТЫ ПРАЦЫ Ў ГАЛІНАХ ЭКАНОМІКІ

У мэтах далейшага ўдасканалення механізма аплаты працы ў галінах эканомікі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 1 студзеня 1998 г.:

мінімальную заработную плату ў памеры 250 тыс. рублёў у якасці нарматыву, абавязковага для выканання ўсімі наймальнікамі;

тарыфную стаўку 1-га разраду ў памеры 500 тыс. рублёў для аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы.

2. Міністэрству працы з 1 студзеня 1998 г. ва ўстаноўленым парадку ўвесці ў дзеянне:

новую рэдакцыю 28-разраднай Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь з суадносінамі тарыфных каэфіцыентаў 28-га і 1-га разрадаў 6,48:1;

даплаты да тарыфных ставак і акладаў работнікаў бюджэтнай сферы, якія тарыфікуюцца 1 - 6-м разрадамі, у памерах 150 - 10 тыс. рублёў у месяц;

тарыфна-кваліфікацыйныя характарыстыкі і адпаведныя ім разрады для работнікаў устаноў і арганізацый адукацыі, аховы здароўя, культуры, фізкультуры і спорту і сацыяльнай абароны;

тарыфныя разрады работнікаў бюджэтнай сферы ў адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай работнікаў Рэспублікі Беларусь і кваліфікацыйнымі патрабаваннямі.

3. Міністэрствам і іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, якія фінансуюцца з бюджэту, забяспечыць пераразлік заработнай платы работнікаў у адпаведнасці з устаноўленымі гэтай пастановай тарыфнай стаўкай 1-га разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь.

4. Міністэрству абароны, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі, Міністэрству сацыяльнай абароны з 1 студзеня 1998 г. зрабіць пераразлік пенсій зыходзячы з новага памеру мінімальнай заработнай платы.

Кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесіянальных тэхнічных навучальных устаноў перагледзець памеры дзяржаўных стыпендый.

5. Павялічыць з 1 студзеня 1998 г. у 1,25 раза назначаныя да ўказанай даты ў адпаведнасці з заканадаўствам дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесіянальную падрыхтоўку (павышаюць кваліфікацыю) па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

6. Рэкамендаваць кіраўнікам дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый па ўзгадненню з прафсаюзнымі камітэтамі:

на прадпрыемствах, у якіх тарыфная стаўка 1-га разраду ніжэй тарыфнай стаўкі 1-га разраду, прадугледжанай пунктам 1 гэтай пастановы для работнікаў бюджэтнай сферы, ажыццявіць павышэнне дзеючай стаўкі па меры адшукання сродкаў за кошт выкарыстання ўнутраных рэзерваў, павышэння эфектыўнасці гаспадарання, павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі. У гэтых мэтах пры ўвядзенні тарыфнай стаўкі 1-га разраду перагледзець структуру заработнай платы, дзеючыя нормы выпрацоўкі, іншыя нарматывы працоўных затрат, памеры надбавак і даплат, сістэмы прэміравання работнікаў і на гэтай аснове павысіць якасць нормаў, узровень нарміравання працы і стымулюючую ролю надбавак і прэмій у выкарыстанні рэзерваў павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і падвышэння яе эфектыўнасці;

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## НАВАГОДНІ ЗВАРОТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.Р. ЛУКАШЭНКІ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Паважаныя суайчыннікі! Дарагія мае землякі!

У гэтыя переднавагоднія мінуты я рады быць разам з вамі, мысленна ўбачыць такія родныя і блізкія твары сяброў, землякоў, таварышаў, адчуць святочнае цяпло ў кожным беларускім доме.

Сёння ў нас добрае, любімае ўсімі намі народнае свята. Яно аб'ядноўвае людзей, дае магчымасць забыць аб хваробах і смутку, умацоўвае сямейныя вузы, дружбу і сардэчнасць. Гэта свята яшчэ раз нагадвае нам аб тым, якімі беражлівымі мы павінны быць адзін да аднаго. Менавіта ў такое свята асаблівым зместам напаўняюцца добра вядомыя словы: мы, народ Беларусі, — адна вялікая сям'я. А сям'я моцная павагай і любоўю.

Цяпер, калі ва ўсіх беларускіх дамах накрыты святочныя сталы, кожны чалавек сваімі імкненнямі і марамі ўжо ў надыходзячым годзе.

Бацькі жадаюць дабра і дабрабыту сваім дзецям. Дзеці жадаюць здароўя і даўгалецця бацькам.

Блізкія людзі хочуць бачыць адзін аднаго шчаслівымі, прыгожымі, добразычлівымі і высакароднымі.

А ўсе мы разам працуем, каб жыць у працвітаючай, свабоднай і незалежнай краіне.

І гэтыя нашы чалавечыя і грамадзянскія думкі маюць спрыяльную глебу для ўвасаблення ў жыццё.

Беларускі народ багаты шматвяковай мудрасцю і палітычным вопытам. Ён валодае самымі сучаснымі ведамі. У яго свядомасці і душы з пакалення ў пакаленне пераходзяць высокія хрысціянскія каштоўнасці: працавітасць, павага да блізкага, дапамога слабаму.

Геаграфічнае становішча краіны і наша эканоміка, якая адраджаецца, даюць магчымасць з аптымізмам глядзець у будучыню.

Усё гэта дае мне права сказаць: мы можам жыць дастойна і мы будзем жыць дастойна!

Я, вамі выбраны прэзідэнт, галоўную сваю мэту бачу менавіта ў стварэнні ўмоў для дастойнага жыцця ўсім грамадзянам Беларусі, усім катэгорыям працоўных, усім сацыяльным групам насельніцтва.

Але пры гэтым усе мы павінны разумець — нацыянальнае духоўнае і эканамічнае адраджэнне магчымыя пры:

— сацыяльным міры і грамадзянскай згодзе;

— актыўнай гістарычнай творчасці і напружанай працы;

— глыбокай і ўсвядомленай веры ў нашы стваральныя магчымасці.

І я звяртаюся да ўсіх вас:

— рабочых і калгаснікаў;

— навучэнцаў і студэнтаў;

— пенсіянерак і хатніх гаспадынь;

— творчай і тэхнічнай інтэлігенцыі;

— салдат і афіцэраў;

— прыхільнікаў і маіх апанентаў.

Давайце агульнымі намаганнямі ў 1998 годзе выкарыстаем усе магчымасці для таго, каб эканамічнае адраджэнне Беларусі з кожным днём набліжала нас да працвітання нашай краіны.

Дарагія суайчыннікі!

Мы пражылі цяжкі год. У нас нямала праблем, з якімі штодзённа сутыкаецца кожная беларуская сям'я. Але адначасова большасць з вас адчула:

— час сацыяльнай безнадзейнасці і псіхалагічнай дэпрэсіі мінуў;

— грамадства ўпэўнена і незваротна выйшла з сацыяльна-эканамічных пераплётаў;

— дзяржава ўзмацнела і ўжо здольная мэтанакіравана і сістэмна весці падтрыманую народам палітыку.

Рэспубліка Беларусь як незалежная і самастойная дзяржава — адбылася. Гэта галоўны вынік апошніх гадоў!

Статыстычныя даныя эканамічнага росту — гэта ўсяго толькі фон для ажыццяўлення справядлівай, сапраўды народнай сацыяльнай стратэгіі. Адсюль у Беларусі:

— рэгулярная выплата зарплаты, пенсій і дапамог;

— пастаяннае павышэнне памераў стыпендый і сацыяльных даплат;

— рэзкае павелічэнне сродкаў на жыллёвае будаўніцтва;

— узросшая падтрымка таленавітай і здольнай моладзі — будучыні нацыі. Мы зробім усё для таго, каб ужо ў першым квартале 1998 года зарплату, пенсіі і дапамогі павялічыць на 25—30 працэнтаў.

Так, зрухі відавочныя, вынікі неаспрэчныя. Але ў Новым годзе мы павінны пацвердзіць: станоўчыя вынікі не выпадковыя, станоўчыя тэндэнцыі незваротныя.

Так, большасці нашых грамадзян усё яшчэ жывецца нялёгка, часам нават цяжка. Але мы ўжо кожны дзень бачым, як выходзяць з запусцення нашы гарады і вёскі, як усё больш сем'яў з сярэднімі даходамі будуюць дыхтоўныя дамы і купляюць добрыя аўтамабілі, запаўняюць залы тэатраў і музеяў, ствараюць дамашнія бібліятэкі.

Гэта добра. Гэта трэба вітаць. Гэтаму трэба садзейнічаць. І дзяржава будзе ўсямерна падтрымліваць тых, хто можа і хоча працаваць на карысць грамадства і сваёй сям'і.

Адначасова я пацвярджаю: кожны грамадзянін краіны, які мае патрэбу ў сацыяльнай дапамозе дзяржавы, такую дапамогу атрымае. Гэта датычыць пенсіянераў, інвалідаў вайны і працы, шматдзетных сем'яў, адзінокіх старых, навучэнскай моладзі. Ні адзін чалавек у нашай Айчыне ніколі не будзе адчуваць сябе забытым, абдзеленым і адзінокім.

Усе, хто садзейнічае станаўленню Рэспублікі Беларусь як моцнай дэмакратычнай краіны з магутнай эканомікай і надзейнай сістэмай сацыяльных правоў і гарантый грамадзян, будуць адчуваць падтрымку беларускай дзяржавы. Беларусь — краіна ўсіх беларусаў.

Беларусь таксама гатова супрацоўнічаць з любой краінай свету, з любым міждзяржаўным утварэннем, любой міжнароднай арганізацыяй выключна на ўмовах партнёрства і захавання суверэнных інтарэсаў дзяржавы. Дыктат ні знутры, ні звонку не можа быць асновай для супрацоўніцтва. Наша знешняя палітыка як на Усходзе, так і на Захадзе будуецца зыходзячы з геапалітычных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, інтарэсаў кожнага яе грамадзяніна.

Менавіта падтрымка грамадзян Беларусі, маіх выбаршчыкаў дала магчымасць стварыць і ўмацаваць Саюз з Расіяй. Запэўніваю вас, што як Старшыня Вышэйшага Савета Саюза, я буду рабіць усё неабходнае, каб гэты Саюз стаў узорам раўнапраўнага супрацоўніцтва і дружбы брацкіх народаў. Дарагія сябры!

Праз некалькі мінут мы падымем бакалы са зразумелым і жаданым для нас тостам — за лепшае жыццё ў новым годзе.

Я хачу падтрымаць гэты тост. Давайце жыць надзеяй і аптымізмам, давайце будзем будаўнікамі гэтага аптымізму. Усё ў нашых руках.

Хачу пажадаць шчасця і здароўя нашым слаўным ветэранам вайны і працы. Доўгіх вам гадоў жыцця!

Мае самыя добрыя пажаданні жанчынам-маці, жонкам, сёстрам, дочкам. Няхай новы год прынясе вам і вашым любімым больш шчасця, цеплыні і радасці.

Мае асаблівыя словы ўдзячнасці ў адрас хлебаробаў.

Нізкі вам паклон, працаўнікі зямлі!

Мае віншаванні творчай інтэлігенцыі, вучоным, дзеячам мастацтва, урачам, настаўнікам. Шчасця вам і творчых поспехаў!

Віншую з Новым годам беларускую моладзь. Краіна робіць усё, каб вы знайшлі сваё месца ў жыцці.

Шчасця і аптымізму жадаю салдатам і афіцэрам беларускай арміі, пагранічнікам, супрацоўнікам праваахоўных органаў.

Віншую з надыходзячым Новым годам усіх суайчыннікаў:

— тых, хто цяпер у асяроддзі сям'і, з сябрамі і блізкімі за святочным сталом;

— тых, хто знаходзіцца на рабочым месцы, на службе па ахове дзяржаўнай граніцы і грамадскага парадку;

— тых, хто прадстаўляе нашу краіну за мяжой;

— тых, хто цяпер у дарозе;

усіх беларусаў, якія пражываюць за межамі сваёй Айчыны.

З Новым 1998 годам Вас, дарагія землякі!

З Новым годам віншую таксама ўсіх замежных грамадзян, якія працуюць у нашай краіне.

Ад імя беларускага народа шлю навагоднія віншаванні расійскаму, украінскаму, іншым брацкім народам, з якімі мы да нядаўняга часу жылі ў адзінай магутнай краіне. Перакананы, што мы захаваем паміж былымі рэспублікамі Савецкага Саюза самыя цесныя адносіны, выйдзем на якасна новы ўзровень міждзяржаўнага супрацоўніцтва.

У новым годзе шчыра жадаю:

— дабрабыту і дастатку кожнаму дому;

— згоды і любві кожнай сям'і;

— здароўя і шчасця кожнаму чалавеку;

— міру і спакою нашай зямлі;

— працвітання роднай Айчыне!

З Новым годам, дарагія суайчыннікі!



Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ДАПАМОГА НА ДЗЯЦЕЙ: З НОВАГА ГОДА — НОВЫЯ ПАМЕРЫ

***З Новага года памеры штомесячных дапамог сем'ям, што выхоўваюць дзяцей, павінны павялічыцца адразу амаль у два разы — такую інфармацыю паведамілі нам у Міністэрстве сацыяльнай абароны. Каб высветліць падрабязнасці, карэспандэнт «Звязды» вырашыў звярнуцца да кіраўніка аддзела сям'і і гендэрных праблем міністэрства Валянціна ЛАДАЖЭНКІ.***

**— Перш-наперш хацелася б ведаць, чым тлумачыцца цяперашняя даволі істотная «падвышка»?**

— Як вядома, з ліпеня мінулага года пачалі дзейнічаць змены ў Законе «Аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, што выхоўваюць дзяцей». Змены звяліся да наступнага. Па-першае, самі дапамогі сталі больш дыферэнцыраванымі. А па-другое, калі раней памеры дапамог вызначаліся зыходзячы з мінімальнай зарплаты, то зараз яны «прывязваюцца» да мінімальнага спажывецкага бюджэту па стану на верасень папярэдняга года. У верасні 1997 года МСБ склаў 2 млн. 36 тыс. 622 рублі. На яго аснове і зроблены пераразлік на гэты год.

**— Няма сумненняў, што самае цікавае ў дадзеным выпадку — канкрэтныя лічбы. Яны ўжо вядомыя?**

— Нягледзячы на тое, што падрыхтаваны загад Міністэрства сацыяльнай абароны пакуль не зацверджаны ўрадам, казаць аб лічбах можна больш-менш пэўна.

Спачатку гаворка аб маці (як варыянт — бацьку ці апекуне), якія знаходзяцца ў водпуску па догляду за дзіцем да 3 гадоў, навучаюцца з адрывам ад вытворчасці, з'яўляюцца інвалідамі I і II груп, пенсіянерамі або звольненымі ў сувязі з ліквідацыяй прадпрыемства ў час водпуску, — штомесячны памер дапамогі гэтай катэгорыі складзе 712,8 тыс. рублёў. 891 тыс. (з улікам 25-працэнтнай надбаўкі) будуць мець прадстаўнікі гэтай жа катэгорыі, калі яны адносяцца да адзінокіх маці і па тых ці іншых прычынах не атрымліваюць аліментаў. Дапамога ў памеры 1 млн. 69,2 тыс. (з 50-працэнтнай надбаўкай) прадугледжана пералічаным асобам, якія з'яўляюцца адзінокімі маці з ліку дзяцей-сірот, былых выхаванцаў дзіцячых дамоў, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў да 3 гадоў, а таксама жонкам ваеннаслужачых тэрміновай службы.

Непрацуючыя жанчыны, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў, а таксама непрацуючыя жанчыны, якія даглядаюць дзіця-інваліда да 16 гадоў, жанчыны, якія афіцыйна маюць статус беспрацоўных, атрымаюць дапамогу ў памеры 407,3 тыс. Надбаўка ў 25 працэнтаў (з ёй дапамога складзе ўжо 509,1 тыс.) прадугледжана для маці, што не атрымлівае аліментаў. Надбаўка ў 50 працэнтаў (або дапамога ў памеры 611,1 тыс.) — для адзінокіх непрацуючых маці з дзецьмі да 3 гадоў, калі самі маці адносяцца да сірот, былых выхаванцаў дамоў-інтэрнатаў або жонак ваеннаслужачых тэрміновай службы.

305,5 тыс. рублёў атрымаюць сем'і, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў. 381,9 тыс. — адзінокія маці (з 25-працэнтнай надбаўкай) на дзяцей ад 3 да 16 гадоў, якія не атрымліваюць аліментаў. 458,3 тыс. (з 50-працэнтнай надбаўкай) складуць дапамогі адзінокім маці дзяцей ад 3 да 16 гадоў, калі маці з'яўляюцца сіротамі, былымі выхаванкамі дамоў-інтэрнатаў, жонкамі ваеннаслужачых тэрміновай службы або калі гэтыя маці выхоўваюць дзяцей-інвалідаў.

Дапамога ў памеры 814,7 тыс. вызначана непрацуючым асобам, а таксама асобам, якія не атрымліваюць пенсій і дапамог па беспрацоўю, калі яны выхоўваюць дзяцей да 16 гадоў.

(Заканчэнне на 2-й стар.)



# — ПРЫСЯГАЮ ТАБЕ, БЕЛАРУСЬ!

У гэтую раніцу каманда «Пад'ём!» прагучала па-святочнаму — раніца пачалася з падрыхтоўкі да ўрачыстасці. У вайсковых часцях святы бываюць нячаста, але нават з невялікай іх колькасці можна вылучыць самае галоўнае — дзень, калі маладыя воіны прымаюць Прысягу.

У гэта падраздзяленне барысаўскага гарнізона з раніцы з'ехаліся госці — бацькі і родныя тых, хто зусім нядаўна апрануў салдацкія шынелі. Разам з родзічамі маладых воінаў праз прахадную ўвайшоў і міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік А. Чумакоў — ён таксама пажадаў на свае вочы пабачыць, якое папаўненне прыйшло сёлета ў войска.

Полымя Вечнага агню гарыць ля помніка салдатам-аднапалчанам, сцягі баявых падраздзяленняў нерухома застылі ў ганаровай варце, ваенны аркестр толькі што адыграў урачысты марш-сустрэчу





— усе чакаюць пачатку Прысягі. І вось з шарэнгі адзін за адным парадным крокам выходзяць юнакі і, узяўшы ў руку тэкст Ваеннай Прысягі, гледзячы на сваіх аднагодкаў, старэйшых камандзіраў, бацькоў, уголас паўтараюць свяшчэнныя словы пра абавязак воіна-абаронцы.

Пасля ўрачыстасці бацькі падышлі да сваіх сыноў, віталі іх, разам пайшлі паглядзець, як у казармах наладжаны быт, што ўяўляе сабой ваенны гарадок, клуб, сталовая. На пляцы ўсіх частавалі салдацкаю кашаю з вялікага катла, духмянай гарбатаю, а на сцэне ў гонар свята даваў канцэрт славуты ансамбль песні і танца.

**На здымках:** *кветкі да помніка воінам-аднапалчанам ускладаюць маладыя воіны, камандзіры, ветэраны падраздзялення; радавому Аляксандру Шчэтнікаву ўрачысты дзень Прысягі запомніцца назаўжды — побач з ім перад баявым сцягам часці стаяў міністр абароны генерал-палкоўнік А. Чумакоў.*

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*АШМЯНЫ. ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

## АШМЯНСКІ РАЙВЫКАНКАМ ДАЕ АЦЭНКУ. ВЫСТУПЛЕННЮ «ЗВЯЗДЫ» І ЎЛАСНЫМ ПРАЛІКАМ

Аднымі зварот «Звязды» да ашмянскіх пралікаў успрыняты прыблізна так: маўляў, зняславілі на ўсю рэспубліку, на ўсю Беларусь. Хаця фактаў, выкладзеных у двух матэрыялах, ніхто не аспрэчвае. Другія ўспрынялі газетныя выступленні як справядлівую ацэнку стану спраў у сельскагаспадарчай вытворчасці Ашмянскага раёна. Камусьці падалося, што замала недахопаў ускрыла газета. Што ж, факты ёсць факты. Адны і тыя ж факты рознымі быць не могуць.

Сёе-тое можна ўдакладніць. Тым больш, што выступленні «Звязды» былі разгледжаны на нядаўнім пасяджэнні Ашмянскага райвыканкама. Справаздачу трымала ўпраўленне сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання. Што датычыць калгаса імя Л. Кляцкова (былая назва, да сёлетняй восені, — «Ясная Паляна»), то цытую з даведкі ўпраўлення, падрыхтаванай да разгляду: «...Засталіся няўбранымі сумесь азімага жыта з азімай вікай і групы аднагадовых на плошчы 15 гектараў, якія былі скошаны ў валкі, але з-за паламанай корма- і збожжаўборачнай тэхнікі і адсутнасці магчымасцяў яе рамонту зацягнуліся тэрміны падбору валкоў, што часткова прывяло да высявання зерня. Пра што і складзены акт. Памер панесеных страт склаў 25,7 млн. рублёў». І далей: «Па факту таго, што не была праведзена ўборка насеннікаў, высветлена наступнае: з 40 гектараў канюшыны, адведзеных на насенне, абмалочана 19 гектараў і намалочана ўсяго толькі 100 кілаграмаў насення. З-за ідучых у перыяд цвіцення частых дажджоў адбылося слабае апыленне канюшыны, і насенне практычна не сфарміравалася.

Камісія прыйшла да высновы, што праводзіць уборку канюшыны з астатняй плошчы эканамічна немэтазгодна... плошчу ў 21 гектар было рэкамендавана адвесці пад выпас жывёлы, аб чым і складзены акты, якія былі разгледжаны на пасяджэнні праўлення калгаса».

Думаецца, дадзеныя тлумачэнні дарэчы. Але і тлумачэнні, і пасяджэнне ўжо райвыканкама проста прымушаюць зрабіць наступныя высновы. Магчыма, яны былі б лішнімі, калі б услед за агучваннем даведкі асобы зацікаўленыя — і з упраўлення сельскай гаспадаркі, і старшыні закранутых газетай калгасаў выклалі і пэўныя, досыць грунтоўныя разлікі таго, што варта і магчыма зрабіць, каб заўтра, пазбегнуць новых хібаў. Горай будзе, калі няўдалы вопыт 1997 года замацуецца, стане звычайнай справай, няхай сабе і той, якую можна апраўдаць надвор'ем і іншымі аб'ектыўнымі прычынамі. Мне думаецца, што ў пэўнай ступені «звяздоўская» ўвага да калгаса імя Л. Кляцкова («Ясная Паляна») — выпрабаванне для маладога кіраўніка гаспадаркі. Пастараўшыся яго зразумець, паверыць у тое, што чалавекам як арганізатарам вытворчасці зроблена ўсё магчымае ў 1997 сельскагаспадарчым годзе, мы і пабойваемся. І вось чаму. Ці не здарыцца так, што і заўтра старшыня калгаса імя Л. Кляцкова будзе мець на ўвазе, што яму ў любым выпадку будзе выдадзены гарант, крэдыт даверу, падтрымкі?.. Дарэчы, не след забывацца, што ўсе гаранты і крэдыты, калі мець на ўвазе не адну толькі матэрыяльную падтрымку, залежаць не толькі і зусім нават не ад начальства зверху. Залежнасць выяўляецца напрамую ад людзей, якія працуюць побач, якія добра ці дрэнна выконваюць загады, распараджэнні альбо проста працуюць.

Асобнае пытанне — з калгасам імя Ільіча, дзе з пасеяных 81 гектара лубіну на 1 снежня 1997 г. убралі ўсяго 37 гектараў. У адпаведнасці з актам ад 26 лістапада 1997 года былі спісаны 44 гектары лубіну з-за немагчымасці змалаціць яго на збожжа, «па прычыне таго, што ў сувязі з вільготным надвор'ем у перыяд чэрвеня-ліпеня адбылося ўтварэнне бакавых дадатковых парасткаў, у сувязі з чым моцна парушыліся тэрміны выспявання лубіну, адпаведна, і тэрміны ўборкі. А частыя дажджы і туманы ў перыяд верасня-кастрычніка не далі магчымасці ўбраць гэтыя плошчы на насенне. У адпаведнасці з актамі... страты па гаспадарцы роўныя 74,8 млн. рублёў». Да гэтай інфармацыі, задакументаванай ізноў жа ўпраўленнем сельскай гаспадаркі і харчавання, можна заўважыць наступнае. Тэхналагічны бок (а менавіта — «утварэнне бакавых дадатковых парасткаў») — што ні кажыце, акалічнасць істотная. Як і памер матэрыяльнай адказнасці старшыні калгаса імя Ільіча — 2 млн. рублёў. І нават калі браць у разлік надвор'е, усё ж такі нешта няроўнае атрымліваецца на шалях. Няўжо выдаткі і страты павінны ўспрымацца як заканамернасць?

Шкада, што на пасяджэнні выканкама не прысутнічаў увесь старшынёўскі корпус Ашмянскага раёна. Шкада, што толькі з вуснаў старшыні выканкама Віктара Пракопчыка ды саміх членаў выканкама гучалі трывога і заклапочанасць. Дарэчы, адзін з прадстаўнікоў улады Ашмянскага раёна слушна запытаўся ў старшыні калгаса імя Ільіча: «А ці абмяркоўвалі газетныя артыкулы, факты, узнятыя ў іх, з людзьмі?..» Не, не абмяркоўвалі. Мо хіба толькі ў кулуарах. Аднак жа загублены лубін, іншыя страты маюць дачыненне якраз да ўсіх калгаснікаў, а не толькі да кіраўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Мо тады і размова пра страты будзе звязана не адно толькі з надвор'ем і іншымі аб'ектыўнымі прычынамі? Але ж, каб абмяркоўваць з людзьмі, і старшыням патрэбна смеласць.

Відавочна, у Ашмянскім раёне адлюстроўваецца ўвогуле сітуацыя ў сельскагаспадарчай вытворчасці краіны. А гэта, зразумела, многія і многія праблемы. Вырашыць іх магчыма толькі ў звязцы з вырашэннем усіх клопатаў, звязаных у аднолькавай ступені і з вытворчасцю, і з самім жыццём на вёсцы. Якраз пра гэта мы ўжо гаварылі па завяршэнні выканкама з яго старшынёй Віктарам Пракопчыкам. Адчуваецца, што ён гэта разумее як ніхто іншы.

Застаецца спадзявацца, што на дапамогу кіраўніку прыйдуць і астатнія. І не толькі кіраўнікі, але і радавыя грамадзяне, звычайныя калгаснікі. Звычайныя працаўнікі, без волі, рашучасці і гаспадарлівасці якіх не тое што Ашмяны — уся зямля беларуская можа пахіснуцца.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НОВЫ ГОД — НОВЫЯ ПРАВІЛЫ

Новыя правілы пагранічнага кантролю ўводзяцца ў Польшчы. Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, беларусам, якія едуць у гэту краіну, неабходна будзе мець пры сабе пашпарт з адзнакай, што дазваляе выезд ва ўсе краіны, а таксама адно з трох: ваўчэр новага ўзору, новае запрашэнне ці пячатку ў пашпарце «АВ-службовая».

Ваўчэры будуць каштаваць даволі дорага, паколькі іх уладальнік павінен дадаткова заплаціць яшчэ як мінімум за ноч у гасцініцы і за трохразовае харчаванне. Што датычыць запрашэння новага ўзору, то ад старога яно адрозніваецца тым, што завяраць яго трэба будзе не ў натарыуса, а толькі ў канцылярыі ваяводы. Дарэчы, гэтыя новыя правілы павінны былі ўступіць у дзеянне з 27 снежня мінулага года. Але, паводле інфармацыі польскага боку, з-за шматлікіх канфліктных сітуацый на пагранпераходах тэрміны пачатку іх дзеяння перанесены на 15 студзеня.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

## МІНІСТР ФІНАНСАЎ БЕЛАРУСІ ПАВЕДАМІЎ ЖУРНАЛІСТАМ ПАМЕР СВАІХ ДАХОДАЎ

Расходы на ўтрыманне дзяржаўнага апарату за адзінаццаць месяцаў 1997 года склалі ў Беларусі 3,2 працэнта ад усіх бюджэтных расходаў. Як паведаміў журналістам міністр фінансаў рэспублікі Мікалай Корбут, зафіксаваны ў апошнія гады рост служачых дзяржапарату звязаны з павелічэннем колькасці выконваемых імі функцый і абавязкаў.

Не стаў хаваць міністр фінансаў і памераў уласных даходаў. Ён паведаміў, што яго цяперашні службовы аклад з усімі надбаўкамі і ўлікам выслугі (у фінансавай сістэме М.Корбут працуе з 1966 года) складае 7 млн. 100 тысяч беларускіх рублёў. Пры гэтым, адзначыў М.Корбут, заробная плата яго першага намесніка некалькі вышэйшая.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

## КАЛЯНДАР — МАЛЕНЬКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ НАРОДНАГА ЖЫЦЦЯ

**Задума стварыць (скласці) Беларускі культурна-асветніцкі каляндар нараджалася спакваля. Найперш як непрыманне таго, што меў перад вачыма, маючы стол у дзяржаўнай установе, дзе працаваў. Настольныя календары былі розныя, кожны год інакшыя, але апрача «Геральдыкі беларускіх гарадоў», складзенага з улікам спадчыны нашага народа, іншыя вызначаліся выпадковым і часта далёкім ад патрэб культурнага чалавека зместам.**

Такімі, нярэдка завезенымі здалёку, календарамі і дасюль навадняецца кніжны рынак, на якім катастрафічна звужаецца нацыянальная тэматыка і, адпаведна, прысутнасць роднага слова. Тая ж «Геральдыка...» па-беларуску выдадзена сёлета ў колькасці 10 000 асобнікаў. І гэта на ўсю Беларусь!

Агульныя прычыны духоўнага заняпаду, рэзкага спаду цікавасці да свайго, роднага, беларускага — агульнавядомыя і, так выглядае, у бліжэйшых абсягах часу яны наўрад ці памяняюцца на лепшыя. Але ж і ў гэтай невясёлай сітуацыі трэба нешта рабіць, каб ўратаваць людзей ад маральнага самаразбурэння, каб ён канчаткова не ператварыліся ў натоўп без сваёй мовы, гістарычнай памяці, нацыянальнай годнасці. Тут, перакана્ны, настольныя календары могуць саслужыць добрую службу. Ужо тое, што чалавек дзень пры дні мае перад вачыма дзесятак беларускіх слоў, ды не пустых, а напоўненых звесткамі пра выдатныя падзеі і славутых людзей роднага краю — у большасці закране затоеныя струны душы, паспрыяе ажыўленню таго, што засыхае, а мо і адмерла.

Трэба шукаць новыя формы і падыходы ў падачы матэрыялу, мець не адзін, а некалькі беларускамоўных календароў, каб была магчымасць выбару з улікам таго, што земляроба больш цікавіць адно, вайскоўца — другое, а людзей асветы, культуры, аховы здароўя — трэцяе. Разам з гэтым у гісторыі кожнага народа ёсць падзеі, факты і імёны, якія маюць агульнанацыянальную значнасць, і іх пажадана ведаць кожнаму культурнаму, а значыць свядомаму, грамадзяніну сваёй краіны, незалежна ад прафесіі і поглядаў. Бо гэта тое, што лучыць людзей паміж сабой, не раз'ядноўвае, а яднае ў грамадзянскую супольнасць.

Мы ставілі перад сабой задачу стварыць своеасаблівую маленькую энцыклапедыю, чытаючы якую, людзі дзень за днём будуць далучацца да здзейсненага лепшымі прадстаўнікамі народа на скрыжалях вечнага часу.

Безумоўна, адзін год — усяго толькі невялікае акенца ў шырокі і разнастайна-шматгранны свет нашай даўніны і сучаснасці. Але ж кожны наступны год высвечвае новыя пласты народнага нацыянальнага жыцця...

Гэты каляндар спачатку меркавалася выдаць як настольны. Але на гэта, як кажуць, не хапіла духу, рэальнай падтрымкі ўстаноў, у такім выданні нібыта непасрэдна зацікаўленых. Але ж і газетная старонка мае не толькі сэнс, але і свае перавагі. Увогуле выданне такіх календароў бачыцца магчымым у двух варыянтах: сціслым, прызначаным для настольнага карыстання, і больш разгорнутым — для перыёдыкі. Менавіта дзеля гэтага ў другім варыянце былі пашыраны некаторыя звесткі пра значныя даты нашай гісторыі, зроблена апісанне на сёння забытых ці напаўзабытых народных святаў і прысвяткаў, якія, мяркуем, нясуць у сабе высокі і актуальны паэтычны і маральны сэнс і вартыя адраджэння.

Ці працягнем распачатае — будзе залежаць ад некалькіх прычын, але найперш ад вашага, шаноўныя чытачы, стаўлення да гэтай працы, якая, зазначым, патрабуе вялікіх высілкаў. Такім чынам, чакаем ад вас не толькі водгукаў, заўваг і прапаноў, але і згоды дапамагчы ў стварэнні календара на наступны 1999 год. Як паказаў вопыт, удзел «людзей з месцаў» дазваляе падняць з забыцця факты, што па розных прычынах не трапілі нават у тоўстыя энцыклапедычныя выданні.

Выказваем шчырую ўдзячнасць за дапамогу ў зборы звестак:

***— Нацыянальнаму інстытуту адукацыі;***

***Музею гісторыі навукі Нацыянальнай акадэміі навук;***

***Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі;***

***аддзелу культуры Гродзенскага аблвыканкама;***

***рэспубліканскаму музею медыцыны;***

***Навагрудскаму і Карэліцкаму гісторыка-краязнаўчым музеям;***

***аддзелу культуры Нясвіжскага райвыканкама;***

***асабіста Анфісе Ляднёвай і Святлане Сачанка.***

**Яўген ЛЕЦКА.**

### 3 СТУДЗЕНЯ

**90 гадоў** з дня нараджэння (1908-1992) Я. А. Зайцава, жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1923) В. І. Гапавай, літаратуразнаўца.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1923) А. А. Шашкова, пісьменніка.

**40 гадоў** з дня нараджэння (1958) Данчыка (Багдан Андрусішын), спевака, музыканта, публіцыста, культурнага дзеяча беларускай эміграцыі.

***Добрае слаўцо — лепш чым піўцо.***
*Народная прымаўка.*

### 4 СТУДЗЕНЯ

Сёлета спаўняецца **775 гадоў** ад першага ўзгадвання (1223) у летапісе пра Нясвіж.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1923) М. М. Ваданосава, пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

***Два вынаходніцтвы чалавецтва можна лічыць самымі цяжкімі: здольнасць кіраваць і здольнасць выхоўваць.***
*У.Кант* (1724-1804), нямецкі філосаф.

### 5 СТУДЗЕНЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння (1878-1950) Ю. А. Вейса, вучонага ў галіне машыназнаўства і механізацыі сельскай гаспадаркі, акадэміка АН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі.

**60 гадоў** з дня нараджэння (1938) А. П. Вайтовіча, вучонага ў галіне квантавай электронікі, акадэміка АН Беларусі, Прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (з 1997).

***Не словы патрэбны, а справы.***
*Лацінскае мудраслоўе.*

## СЁННЯ

***Маладзік, 29 снежня***
***З 12.17 — 6-я месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Рыб.***

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, па заходняй палавіне ападкі, месцамі туман, слабы галалёд. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — каля нуля, Гомелі, Мінску — 0—2, Гродне, Брэсце — 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак часам ападкі, 5-га ўначы — пераважна без ападкаў. Тэмпература 4-га на працягу сутак мінус 2—плюс 3, 5-га ўначы 0—5 градусаў марозу, удзень — мінус 1—плюс 4.

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях**: 5. Кніга, брашура, якія прыкладаюцца да падпіснога выдання. 6. Установа, дзе трымаюцца жывёлы і звяры для паказу і азнаямлення. 10. Паверхневая частка ствала, галін і кораню дрэвавых раслін. 11. Вялікая халодная будыніна для захоўвання сена. 12. Прэснаводная рыба сямейства карпавых. 14. Упрыгожанне з жэмчугу або іншых каштоўных камянёў на шыі. 15. Кукурузны пачатак. 16. Архітэктурна аформлены галоўны ўваход у вялікім будынку. 19. Тоўстае палатно з пянькі або грубай ільняной пражы. 20. Ільдзіна. 23. Травяністая расліна, якая прыгожа цвіце і прыемна пахне. 24. У старой Расіі: выбарны начальнік у казацкіх войсках або паселішчах. 27. Асоба, якая пасылаецца адным з ваюючых бакоў для перагавораў з праціўнікам. 29. Прыстаўная лесвіца для пасадкі ў самалёт або для выхаду з яго. 31. Край адзежыны, на якім знаходзяцца гузікі або петлі. 32. Афіцыйны дакумент, які пацвярджае або ўстанаўлівае што-небудзь. 33. Пагадовы запіс гістарычных падзей у старыя часы.

**Па вертыкалях**: 1. Думка пра жаданае будучае. 2. Нерухомая частка электрычнай машыны. 3. Невялікае памяшканне пры хаце для захоўвання ежы, розных хатніх рэчаў і г.д. 4. Дробныя плямкі іншага колеру на ч.-н. 7. Старажытны ўрачысты верш. 8. Шырокая дарога. 9. Месяц года. 12. Аптычная прылада, у якой можна назіраць змены розных каляровых узораў. 13. Прыстасаванне для змякчэння штуршкоў. 17. Узаемная дамоўленасць. 18. Пастаянная сувязь і ўзаемазалежнасць паміж з'явамі. 21. Разменная манета (стар.). 22. Малюнак, выразаны на гладкай паверхні цвёрдага матэрыялу. 25 Прымёрзлы да берага лёд. 26. Складзены ў штабель тавар. 28. Вельмі кароткі прамежак часу. 30. Ільняная або баваўняная тканіна. 31. Светлая пляміна або водбліск на цёмнай паверхні.

Калі вы правільна разгадаеце крыжаванку і запоўніце яе клеткі, то ў выдзеленых клетках вы зможаце прачытаць віншаванне. Для гэтага трэба ў словах, пазначаных у лічніку дробу, узяць літару з парадкавым нумарам, пазначаным у назоўніку дробу. Чытаць трэба па ходу гадзіннікавай стрэлкі.

**Даслаў Іван ХАБЯН.**
*Лідскі раён.*

### ЛІЧБАВАЯ КРЫЖАВАНКА

Сутнасць яе ў тым, што ў клетках крыжаванкі па гарызанталях і па вертыкалях трэба правільна расставіць 48 прыведзеных ніжэй шматлічбавых лікаў. Варыянт расстаноўкі існуе толькі адзін. Для таго, каб пачаць расстаўляць лікі, прыведзены адзін лік — 8991. Далей, нібы па цэркі, можна нанізаць усе астатнія лікі.

Даслаў гэтую незвычайную крыжаванку наш чытач **Андрэй Аўдзеенка** з горада Ліда, а складаў ён яе разам са сваім сябрам Міхаілам Зянкевічам.

Спадзяёмся, што нашы чытачы дашлюць правільны адказ на гэтую незвычайную крыжаванку. Гэтак жа, як яны дасылаюць адказы на традыцыйныя крыжаванкі і на іншыя заданні «Суботніх вечароў».



**1002, 451087610083, 1859, 813455, 421552, 8943, 19614, 8991, 444445, 87656778, 8901, 234560, 251608743309, 53233, 67089451, 5555, 222222, 685472, 14078925, 93865, 1536, 987632134510, 203076, 392760, 870128, 1600, 64721, 945813, 47712, 223473, 243864, 5149, 91135770, 7991, 509372, 500032, 24030, 9139, 3562, 801294, 231982, 613840, 32167, 560752, 53229, 385000, 370107, 300459019712.**

### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка «Сняжынка» (27 снежня).** 1. Ізумруд. 2. Алюр. 3. Клін. 4. Снежань. 5. Анероід. 6. Матч. 7. Шарж. 8. «Золушка». 9. Вотчына. 10. Пеле. 11. Перу. 12. Дворжак. 13. Авіетка. 14. Алег. 15. Хлор. 16. Рыслінг. 17. Дыягназ. 18. Сват. 19. Авал. 20. Амфібія. 21. Смятана. 22. Кафэ. 23. Сакі. 24. Агранка. 25. Агрэсія. 26. Слон. 27. Ялта. 28. Вольная. 29. Хойнікі. 30. Кава. 31. Баль. 32. Гданьск. 33. Адрасат. 34. Ажыо. 35. Джын. 36. Мазурка. 37. Лагойск. 38. Заір. 39. Рагу. 40. Омнібус. 41. Амерыка. 42. Тайм. 43. Маці. 44. Дзённік. У кружочках: «З Новым годам!»

**Галаваломка (27 снежня).** Віншаванне было зашыфравана такое: «Беларускі мой народзе, табе шчасця ў Новым годзе!».

**Крыптаграма (27 снежня).** Ключавыя словы ў ёй: дзея, цымбалы, вежа, спорт. Прымаўка была зашыфравана такая: «Дзе добра жывецца, там весела пяецца».

**Які лік? (27 снежня).** Прапушчаны лік 289. У гэтым радзе прыведзены квадраты паслядоўных няцотных лікаў: 13, 15, 17, 19, 21.

* * *

Першай даслала свой адказ на вялікую крыжаванку, змешчаную 20 снежня, наша актыўная чытачка з горада Дзятлава Валянціна Шундрык.

*СМЕХАТЭРАПІЯ*

## ПАД НОВЫ ГОД І ЦЕШЧА ЗАЛАТЫ ЧАЛАВЕК

Заўтра Новы год, а сёння сапсаваўся тэлевізар. Сусед, механік па халадзільніках, паставіў «дыягназ».

— Ляснуўся кінескоп, — упэўнена заявіў ён.

Жонка была катэгарычнай: — Без тэлевізара і Новы год — не свята!

— А я хачу паглядзець на Філю, — насупілася дачка, — на Зайку майго...

— Што вы да гэтага тэлевізара прычапіліся? Быццам свет на ім клінам сышоўся.

— Ты ж сам, як голую кабету ўгледзіш, то носам у экран гатоў улезці, — успыхнула жонка.

Адным словам, грошай на новы кінескоп няма, але жонка дае даведку.

— У мамы ёсць стары тэлевізар, можна ўзяць.

Мама — гэта мая цешча, з якой я не гаварыў гады тры, ды і бачыў апошні раз таксама даўнавата.

— Калі не прывязеш, то мы пойдзем сустракаць Новы год да мамы, — падкусіла жонка.

— Што ж, ты пойдзеш да мамы, а я да адной... тут

Жонка спачатку разззлавалася, а затым сказала прымірэнча.

— А чаму б табе не памірыцца, якраз пад Новы год — добрая нагода.

— Ды я не сварыўся, здаецца...

— Усё роўна як дзеці якія, — разважала жонка. — Купі кветак, цукерак...

— Мо яшчэ і шакаладных?!

— Можна і шакаладных, — ведаеш, як маме прыемна будзе?!

Здаецца, жонка нічога не зразумела.

— А ты ведаеш, колькі сёння кветкі каштуюць? Палову тэлевізара.

— То можна адну ружу купіць. Галоўнае ўвага, — настойвала палавіна.

Я падумаў і вырашыў, што сапраўды пара памірыцца, а то не па-людску атрымліваецца. Цешча таксама чалавек.

— Чакай з тэлевізарам, — кінуў жонцы, а сам падаўся на рынак.

Купіў не адну ружу, а дзве чырвоныя. Прымірэнне з цешчай усё ж падзея.

Кветкі загарнуў у газету, каб марозам не прыхапіла, а шакаладку паклаў у кішэню — і да Ганны Сцяпанаўны.

Пазваніў і чакаю. Хто яго ведае, як мяне ўспрыме чалавек, з якім я даўнавата і словам не перакідваўся. Хаця цешча і радня, але ўсё ж...

Як толькі Ганна Сцяпанаўна ўбачыла мяне на парозе, то збялела.

— Што здарылася? — прашаптала яна.

— Нічога, мама, — адказаў я і працягнуў кветкі.

Цешча пахіснулася і прысланілася да дзвярэй. Асцярожна разгарнула газету і апусцілася на табурэтку. А я яшчэ і шакаладку ёй на калені..

— Коля, навошта ўсё гэта? — сказала Ганна Сцяпанаўна, шчокі ў яе загарэліся і яна кінулася на кухню.

Пасля першай чаркі я намякнуў на тэлевізар.

— Бярыце, чаго ён пад сталом пыліцца будзе, — абрадавалася яна. — Хоць у пакоі свабадней стане.

І чаго ў мяне з цешчай кантакту не было? Залаты чалавек. Я выпіў другую чарку, паспрабаваў угаварыць выпіць і цешчу, але яна толькі прыгубіла.

— Ты на мяне, Коля, не глядзі. Выпі і закусі, — гаворыць Ганна Сцяпанаўна і падкладвае мне ў талерку закуску.

Пасля трэцяй я глядзеў на яе з замілаваннем. Даў жа мне Бог такую цешчу.

— Мама, я так перад вамі вінаваты. Можна вас пацалаваць?

Цешча падставіла прыпудраную шчаку і засмяялася.

— Які ж я быў несправядлівы, — падумаў я, калі Ганна Сцяпанаўна цмокнула мяне ў шчаку і выцерла з яе губную памаду.

А потым, калі бутэлька апусцела, мне стала шкада цешчу, і я без усякага кепскага намеру сказаў:

— Мама, вы за апошні год так пастарэлі.

Вядома ж, гаварыў гэта не я, а гарэлка, але збялелая Ганна Сцяпанаўна ўтаропілася на мяне.

— Ты заўсёды такі быў. Табе б толькі чалавека пакрыўдзіць. Што я не бачу, для чаго ты гэтыя кветкі, як нябожчыку, прынёс... Смерці маёй хочаш...

Губы ў цешчы дрыжэлі, а рукі трэсліся. Яна яшчэ штосьці крычала, але я, хоць і няцвёрда, падаўся хутчэй да дзвярэй.

* * *

— Як ты мог, ну не ведаю... — абуралася жонка пасля размовы з маці па тэлефоне.

— Што я мог?

— А хаця б кветкі. Ты што, на пахаванне ішоў? Ну не ведаю.

Так, з кветкамі выйшла накладка, але ж я хацеў як лепш. Ды пайшло яно наогул усё...

А з Новым годам абышлося.

Тэлевізар на таксі прывезла цешча. Мы ўсе разам сядзелі за сталом, глядзелі тэлевізар, пілі за стары год, потым за Новы і я зноў быў упэўнены, што мая цешча — залаты чалавек.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ФОТАЎСМЕШКА



Чаго толькі не выдумвалі спартсмены ў мінулым годзе, каб перамагчы — фантазія біла цераз край. Вось і французская тэнісістка Мэры Пірс падчас сваёй гульні з галандкай Брэндай Шульц Мак Карці прымала такія позы, што далібог, у самога валасы на галаве маглі заварушыцца. Дарэчы, француженка тады і выйграла. Відаць, усё ж такі напалохала.

## АНЕКДОТЫ

*Тэлефонны званок у міліцыю. Усхваляваны мужчынскі голас:*

*— Тэрмінова прыязджайце. Ясеніна 11, кватэра 15. Жонка да крыві збівае свайго мужа!*

*— Зразумела, высылаем патрульную машыну. А вы хто, сусед?*

*— Не, я муж.*

•

*Сустракаюцца «новыя беларусы», і адзін аднаму кажа:*

*— Чуеш, сябра, мне такі «Мерседэс» па заказу зрабілі, прыкідваеш, корпус залаты, колы плацінавыя, а руль увесь у брыльянтах.*

*— Ну і што, ты задаволены?*

*— Ды не, не вельмі.*

*— Чаму?*

*— А неэканомны, бензіну шмат з'ядае.*

# Старонка Паўла Глобы

### 3 студзеня, субота

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Будзьце пільныя і сачыце за сваімі словамі, не давайце сёння ніякіх абяцанняў і клятваў. Не трэба падпісваць дакументы і даваць пісьмовыя абавязацельствы. Імкніцеся да гармоніі, не забывайце пра хараство, каханне і дараванне. Пастарайцеся дараваць крыўды сваім блізкім. Неспрыяльны час для вяселля. Прысвяціце гэты дзень сваёй сям'і. Памяніце сваіх продкаў. Карысныя ўспаміны пра ўсё добрае, што ў вас было ў мінулым. Не рэкамендуецца гатаваць ежу ў гэты дзень, паклапаціцеся пра гэта загадзя.

**АДЗЕННЕ**. Імкніцеся не апранаць на сябе вялікую колькасць адзення. Аддайце перавагу зялёным тонам, адмоўцеся ад жоўтага, аранжавага і чорнага колераў.

**ПРЫМЕТЫ**. Сачыце за аблокамі, іх форма можа мець для вас вялікае значэнне. Сонца ў гэты дзень узыходзіць у смузе — паказчык таго, што вы знаходзіцеся пад апекай продкаў. Ваш сабака заліваецца брэхам — значыцца продкі вас абараняюць. Знайсці каштоўны камень ці пярсцёнак — да выканання жадання. Калі камень выпадае з вашага пярсцёнка ці вы губляеце пярсцёнак — знак сурокаў ці разбурэння сям'і. Зламаць зуб, пазногаць — да хваробы.

**СНЫ**. Прарочыя, здзяйсняюцца праз доўгі час. Убачыць памерлых продкаў — знак абароны і дапамогі. Убачыць дрэвы і кветкі — да шчасця, кахання, нечаканых набыткаў.

**МЕДЫЦЫНА**. Проціпаказаны ўсе аперацыі і працэдуры, звязаны з органамі пачуццяў, скурай, печанню і ніжнімі канечнасцямі. Спрыяльны час для лячэння кішэчніка.

### 4 студзеня, нядзеля

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Гэта дзень актыўных мерапрыемстваў. Можна весці сумленную барацьбу за справядлівасць. Проціпаказаны страх, сумненне і хітрасць. Трэба на нешта адважыцца і ісці да канца. Імкніцеся шмат не размаўляць і сачыце за сваімі словамі, таму што неабдуманыя словы і злыя пажаданні могуць здзейсніцца. Сёння добра чытаць малітвы, вучыць свяшчэнныя тэксты. Гэта найлепшы час для сілавых практыкаванняў. Можна заняцца рамонтнымі работамі. Добра мець справу з металам. У гэты дзень пазбаўляйцеся ад паразітаў. Проціпаказана шмат спаць і шмат есці. Нельга есці курынае мяса і яйкі.

**АДЗЕННЕ**. Рэкамендуюцца чырвоныя і ярка-жоўтыя колеры. Адмоўцеся ад светлых тонаў.

**ПРЫМЕТЫ**. Знайсці металічны прадмет, асабліва востры — да вырашэння заблытаных праблем. Выпадкова ўкалоцца ці парэзацца — знак таго, што вы будзеце з некім балюча развітвацца, але гэта лепш для вас. Калі павеў ветру адчыняе вашы вокны, — да пачатку новага жыцця. Упаўшы востры прадмет у што-небудзь утыкаецца — знак рознагалоссяў і спрэчак. Калі на вас накідваюцца жывёлы — значыцца з вас знята абарона.

**СНЫ**. Сны жанчын больш значныя, чым мужчын. Бачыць бітву — да перамены жыцця. Сніць кашмары ў гэты дзень — да праяснення заблытаных сітуацый.

**МЕДЫЦЫНА**. Слабыя органы пачуццяў, печань, ніжнія канечнасці і галава. Нельга перагружаць галаўны мозг і вочы. Неспрыяльны час для лячэння і выдалення зубоў. Добра лячыць кішэчнік, ныркі, мачавы пузыр і падстраўнікавую залозу.

### 5 студзеня, панядзелак

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Спрыяльны час для калектыўнай работы. Будзьце сабраныя і сканцэнтруйце намаганні на выкананні важных спраў. Сёння не рэкамендуецца сядзець дома і быць у адзіноце. Дзень, добры для пераездаў, пераходу на новую работу. Прыслухайцеся да парад, яны могуць быць вельмі карысныя вам. Добра наведаць храм, пачытаць малітвы, пакаяцца ў сваіх грахах. За снеданнем не ешце курынае мяса і яйкі. Можна пасціць. Карысныя ачышчальныя практыкі агнём. Імкніцеся не пазбягаць шлюбных кантактаў.

**АДЗЕННЕ**. Прытрымлівайцеся цёмна-сіняга і чырвона-карычневага колераў, адмоўцеся ад стракатага і блакітнага колеру адзення.

**ПРЫМЕТЫ**. Зламаць гадзіннік, бытавыя прыборы ці разбіць тэрмометр — знак ломкі стрыжня вашага жыцця. Калі вецер адчыняе вокны, — значыцца Неба разгневалася на вас. Знайсці бліскучы прадмет — да ўдачы і падарункаў. Калі нечакана над вамі запальваецца святло ці агонь, — знак здароўя, працягу жыцця, дабрабыту.

**СНЫ**. Прарочымі з'яўляюцца толькі тыя сны, якія хутка запамінаюцца. Усе яны маюць адносіны не асабіста да вас, а да вашага акружэння. Добра бачыць у сне грошы.

**МЕДЫЦЫНА**. Спрыяльнае энергетычнае лячэнне. Добра гатаваць лекавыя прэпараты. Карысныя працэдуры па амаладжэнню. Можна лячыць ныркі і мачавы пузыр. Нельга перагружаць галаўны мозг і вочы, лячыць і пратэзаваць зубы. Проціпаказаныя аперацыі на твары і галаве.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850.
Зак. № 1.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12